


**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 33 (112) — Нядзеля 17 жнівеня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Завастрэньне міжнароднай сытуацыі

### НЯЗВЫЧАЙНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ АКТЫЎНАСЬЦЬ НА ПРАЦЯГУ АПОШНІХ ТЫДНЯЎ

Летні пэрыяд часу, калі звычайна палітыкі й дыпляматы разьяжджаюцца на адпачынак, вызначаецца, як правіла, агульным застоем у міжнароднай палітыцы. Ня дарма палякі летні пэрыяд часу ў палітычным жыцьці назвалі «агурковым сэзонам». Але гэтага ня можна сказаць аб сёлетнім леце. Ня гледзячы на тое, што яно зьяўляецца асабліва гарачым, як рэдка ў якім годзе, палітычны баромэтр у цэлым сьвеце не апускаецца, але раптоўна падыймаецца. Апошнімі тыднямі разыгрываюцца ў сьвеце выпадкі такой вялікай палітычнай вагі, што яны пакінуць бясспрэчна выразны сьлед на разьвіцьці далейшых міжнародных дачыненьняў. Вось некаторыя зь іх:

На Карэі, пасьля апошняга заламаньня перагавораў аб перамір'і, галоўнакамандаваньне збройнымі сіламі ЗН фактычна ўжо страціла надзею, што перагаворы гэтыя, якія трываюць ужо другі год, прывядуць да якой-небудзь мэты. Ня гледзячы на гэта, фронт зьяўляецца ўжо даўжэйшы час замарожаным і ваенная актыўнасьць ЗН абмяжоўваецца толькі да ўзмоцненай дзейнасьці лётніцтва. Агульна чакаецца, што на далёкаўсходнім фроньце мусяць-жа наступіць нейкія больш радыкальныя зьмены, бо палажэньне такое ня можа цягнуцца ў бесканечнасьць. Падзеі ў Індакітаі й на Маляях, дзе апошнім часам дайшло да новых узварушэньняў, наводзяць на думку, што Масква маніцца расшырыць фронт сваей агрэсыі на гэтую частку далёкаўсходняга кантынэнту. Бясспрэчным пазытыўным дасягненьнем для Захаду было заснаваньне на канфэрэнцыі ў Гонолюлю Рады Бясьпечнасьці Пацыфічнага акіяну, да якой прыступілі ЗША, Аўстралія й Новазэляндыя.

Хаця Амэрыка мае вырашальны голас у сусьветнай палітыцы й заўсёды трымае руку на пульсе, амэрыканскі народ сяньня заабсэрбаваны амаль выключна нутранымі падзеямі, якімі зьяўляецца ход передвыбарнай кампаніі да прэзыдэнцкіх выбараў. Абодвы кандыдаты на прэзыдэнта — Айзэнгаўэр ад рэспубліканскай партыі і Стывэнсон — ад дэмакратычнай вядуць ажыўленую перадвыбарную кампанію, мабілізуючы да гэтага ўсіх сваіх прыхільнікаў.

Таксама ў Эўропе апошнімі тыднямі мелі месца палітычныя выпадкі, якія маюць першараднае значэньне. Перадусім увайшоў ужо ў жыцьцё даўно праектаваны й ужо ратыфікаваны парлямантамі зацікаўленых дзяржаваў Плян Шумана, які задзіночвае вугальную й сталёвую прамысловасьць шасьці заходняэўрапэйскіх дзяржаваў: Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу. Парляманты ЗША й Вялікабрытаніі ратыфікавалі нядаўна генэральны дагавор з Заходняй Нямеччынай, які вызнае ей поўную сувэрэннасьць і раўнапраўнае партнэрства ў сям'і вольных народаў Захаду ўзамен за ўдзел Нямеччыны ў эўрапэйскай арміі.

Вялікім каменем нязгоды ў акцыі задзіночаньня Эўропы зьяўляецца праблема Сары, якая стаіць якраз цяпер на парадку дня. Пасьля таго, калі анэксыя Сары Францыяй сталася поўнасьцю немагчымай з прычыны катэгарычнага супраціву заходнянямецкай саюзнай рэспублікі, быў высунуты францускім урадам праект інтэрнацыяналізацыі гэтага важнага вугальнага басэйну. У вадказ на гэта немцы зажадалі, што, калі мае быць інтэрнацыяналізаваная нямецкая сарская тэрыторыя, то й Францыя павінна некаторыя свае сумежныя з сарскай тэрыторыі, прыкладам Лётарынгію, паддаць інтэрнацыяналізацыі. Францыя, як і трэба было спадзявацца, гэты праект адкінула з абурэньнем. Праблема Сары можа за сабой пацягнуць агульнаэўрапэйскі крысыс, бо бонскі ўрад заявіў, што ратыфікацыя Нямеччынай нямецка-альянсцкага дагавору, у вабставінах француска-нямецкага напружаньня, зьяўляецца вельмі праблематычнай.

Вялікую ўвагу зьвярнула на сябе на Захадзе нядаўнае назначэньне Грамыкі — найспрытнейшага туза савецкай дыплямацыі й незраўнанага інтрыганта на становішча амбасадара СССР у Лёндане. Сяньня ўжо не астаецца ніякага сумліву, што роля Грамыкі ў Лёндане, якую яму даручыў Крэмль, будзе зводзіцца да таго, каб як найглыбей убіць клін разыходжаньняў і непаразуменьняў у англасаскім сьвеце — паміж Вялікабрытаніяй і ЗША, клін, які ўвесь час зазначаўся паміж абедзьвюма дзяржавамі ў іхных паглядах і намерах у дачыненьні да камуністычнай агрэсыі, як у Эўропе, гэтак і на Далёкім Усходзе. Бо ў той час, калі Амэрыка дамагалася больш станоўчага й выразнага дзеяньня ў дачыненьні да Саветаў, Ангельшчына ўвесь час, дрыжучы із страху перад загрозаю новае вайны, намагалася ўсякімі сіламі лагодзіць канфлікты між Усходам і Захадам ды шукаць далейшага паразумленьня із Сталінам. Новая роля Грамыкі ў сувязі з дэмагагічнай палітыкай левага крыла ляйбарыстаўскай партыі Бэвана можа ўкаранавацца некаторым пасьпехам.

Чыстка ў урадавых колах сатэлітных дзяржаваў і тэрор сярод іхнага насельніцтва апошнім часам значна завастрыліся. Пасьля масавых дэпартацыяў у Румыніі й Мадзяршчыне прыйшла чарга на Чэхаславаччыну, дзе, як падаюць газэты, тыднёва дэпартуецца найменш 10.000 чалавек. Гэтаксама ўзмоцнілася саветызацыя Польшчы, у выніку якой было, між іншым, прыняцьце новай канстытуцыі, дакладна скап'яванай із савецкай Сталінскай канстытуцыі. Расьпісаныя паводля гэтае канстытуцыі на 26 кастрычніка выбары загарантоўваюць выключны ўдзел у парляманьце асобам, сьлепа адданым камуністычнаму рэжыму.

І так без канца можна было-б рэгістраваць факты й выпадкі апошніх тыдняў, якія маюць першараднае палітычнае значэньне. Але сярод іх разыгрываюцца дзьве асабліва важныя падзеі, на якіх зьяўляецца прыкаваная ўвага ўсяго сьвету й якія будуць мець вялізарны ўплыў на будучы лёс сьвету. Гэта апошнія падзеі ў Усходняй Нямеччыне, а таксама ў Пэрсыі й Эгіпце.

### ТАТАЛЬНАЯ САВЕТЫЗАЦЫЯ ЎСХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЫ

У вадказ на заключэньне між Заходняй Нямеччынай з аднаго боку й ЗША, Вялікабрытаніяй і Францыяй з другога генэральнага дагавору, на моцы якога Нямеччына прыступіла да сыстэмы супольнай эўрапэйскай абароны, Савецкі Саюз адказаў гвалтоўнай і прысьпешанай саветызацыяй Усходняй Нямеччыны. Пачалося ад таго, што Ўсходняя Нямеччына пачала афіцыяльна тварыць сваю «нацыянальную армію», якая фактычна існавала ўжо даўно пад нявінным шыльдам «народнай паліцыі». Першым аднак запраўдным крокам у кірунку зраўнаньня Ўсходняй Нямеччыны з краінамі г. зв. «народных дэмакрацыяў»,

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Далейшыя баі ў Карэі.** У той час, калі наземны фронт у Карэі зьяўляецца й надалей замарожаным, лётніцкія сілы ЗН праяўляюць асаблівую актыўнасьць у паветры, пасьпахова бамбардуючы ваенныя аб'екты ворага. Каб перасьцерагчы цывільнае насельніцтва Паўночнай Карэі перад паветранымі налётамі й даць яму магчымасьць уцячы ў бясьпечнае месца, збройныя сілы ЗН цераз радыё паведамляюць аб часе й месцы такога налёту.

**Новая прапанова разбраеньняў.** Амэрыканскі дэлегат у камісыі разбраеньняў Задзіночаных Нацыяў запрапанаваў 12 жнівеня ад імені трох заходніх дзяржаваў — ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі, што гэтыя дзяржавы супольна з Савецкім Саюзам і Кітаем павінны сабрацца на канфэрэнцыю пяцёх вялікіх дзяржаваў дзеля абгаварэньня справы разбраеньняў. Канфэрэнцыя павінна забараніць прадукаваньне зброі, якая служыць масаваму зьнішчэньню. Далей мусілі-б быць дакладна ўстаноўленыя распадзел, колькасьць і тыпы дазволенага аружжа. Савецкі дэлегат Якуб Малік адкінуў гэты новы плян з заўвагай, што ён ня ўносіць сабой нічога новага.

**Ген. Наджыб дамагаецца зямельнай рэформы ў Эгіпце.** Галоўная гаспода генэрала Наджыба перадала 12 жнівеня міністар-прэзыдэнту Алі Магэр Пашы падробныя пляны дзеля правядзеньня ў Эгіпце зямельнай рэформы й адначасна высунула дамаганьне, каб хутка былі выдадзеныя адпаведныя распараджэньні ў гэтай справе. Паводля праекту новае рэформы ніхто ня можа мець болей зямлі, чымсьці 80 гэктараў. Зямля, што перавышае гэтую колькасьць, пяройдзе на собскасьць дзяржавы, якая будзе сплачываць яе собсьнікам адшкадаваньне на працягу 30 год паводля сярэдняй цаны на зямлю перад вайной. Гэты запас зямлі дзяржава будзе распрадаваць безьзямельным сялянам і сельскагаспадарскім работнікам на дагодных умовах.

**Эгіпскі ўрад праводзіць палітыку чысткі.** Эгіпскі ўрад 13 жнівеня пастанавіў прыняць далейшыя меры дзеля праведзеньня грунтоўных рэформаў і чысткі ўсяго нутранага палітычнага жыцьця краіны. Будзе паклікана сем камісыяў з надзвычайнымі паўнамоцтвамі, якія будуць дасьледваць усе выпадкі карупцыі, подкупаў і надужываньня ўлады, пачынаючы ад 1939 году. Камісыі маюць права часовага арыштоўваньня й накладаць дысцыплінарныя штрафы.

**Прэм'ер-міністар Пэрсыі атрымаў дыктатарскія паўнамоцтвы.** Пэрскі шах падпісаў 13 жнівеня дэкрэт, прыняты перад гэтым абедзьвюма палатамі пэрскага парляманту, на аснове якога прэм'ер-міністар Мосадэк на працяг 6 месяцаў атрымаў дыктатарскія паўнамоцтвы ў галіне гаспадарскай, фінансавай і сацыяльнай палітыкі. Непасрэдна пасьля падпісаньня выдаў Мосадэк два дэкрэты, якія для пэрскіх дачыненьняў маюць амаль што рэвалюцыйны характар. Адзін дэкрэт прадбачвае пагашэньне ўсіх падаткаў і спэцыяльных павіннасьцяў, якія былі наложаныя на сялян і арандатараў і забараняе вялікім зямельным собсьнікам змушаць сялян і сельскагаспадарскіх работнікаў да працы бяз узнагароды. Другі дэкрэт прадбачвае павышэньне даходаў, якія сяляне й арандатары атрымліваюць із прадпрыемстваў працы. Апрача гэтага сельскагаспадарскія прадпрыемствы (маёнткі) пераведзены выключна ў рукі сялян і арэндатараў. Даход вялікіх зямельных собсьнікаў із жніва на вялікіх арэндных прадпрыемствах устанаўліваецца толькі на 20%.

**Сынгман Ры ўзноў прэзыдэнтам Паўдзённай Карэі.** 77-летні Сынгман Ры выбраны паўторна прэзыдэнтам паўдзённакарэйскай рэспублікі на далейшыя чатыры гады. Ён атрымаў 4 724 000 галасоў, а ягоны найсільнейшы канкурэнт, былы камуністы Хо Вонг Амн, толькі 747 000 галасоў. Падносяцца закіды, што падчас выбараў былі робленыя вялікія злоўжываньні на карысьць Сынгмана Ры.

**Абісынія й Эрытрэя задзіночыліся.** Абісынія й нядаўняя італьянская калёнія Эрытрэя задзіночыліся ў вадну супольную незалежную дзяржаву, а абісынскі цар Гайле Сэлясі падпісаў 11 жнівеня канстытуцыю новай дзяржавы, стварэньне якой было пастаноўленае Задзіночанымі Нацыямі яшчэ ў канцы 1950 году. Канстытуцыя прадугледжвае, што ўрад Эрытрэі зьяўляецца поўнасьцю адказным за справы нутранае палітыкі, затое замежная палітыка, фінансы й гандаль падпадаюць пад кампэтэнцыю саюзнага ўраду.

**Сусьветны гандаль асягнуў рэкордную вышыню.** Найнавейшая статыстычная месячная справаздача Задзіночаных Нацыяў паказвае, што абыймо сусьветнага гандлю асягнула ў 1951 годзе роўна 76 мільярдаў даляраў вартасьці купленых і прададзеных тавараў супраць 56 мільярдаў у 1950 годзе. Гэта найвялікшы рэкорд пасьляваеннага часу. Такім чынам вышыня сусьветнага гандлю ў параўнаньні з 1937 годам, які быў рэкордным годам перадваеннага пэрыяду, узрасла роўна на 200%. Гэты ўзрост прыпісваецца абаронным запатрабаваньням многіх краінаў пасьля выбуху карэйскай вайны. Статыстычныя дадзеныя ЗН памінулі аднак гандаль камуністычных краінаў, якія не падаюць патрэбных для гэтага інфармацыяў. Экспарт вольнага сьвету ў камуністычныя краіны выносіў у 1951 годзе роўна 1,5 мільярдаў даляраў і станавіў каля 2% усяго сусьветнага гандлю. Вываз з камуністычных краінаў у вольны сьвет выносіў 1,6 мільярдаў даляраў, у якім сам Савецкі Саюз прыняў удзел толькі на 20%.

**Супрацьамэрыканская прапаганда ненавісьці ў СССР.** Апошнімі месяцамі галоўнай мэтай усей прапагандовай машыны СССР зьяўляецца распальваньне ненавісьці сярод савецкага народу да амэрыканцаў. Адзін з найпапулярнейшых амэрыканскіх журналаў «Сатэрдэй Івнінг Пост» налічвае ў Савецкім Саюзе звыш 6 000 мясцовых прапагандовых школаў, у якіх стала 165 000 студэнтаў вывучаюць тэхніку прапаганды, у тым ліку й прапаганды ненавісьці. Апрача гэтага ёсьць там 177 рэгіянальных школаў, у якіх 135 000 заавансаваных прапагандыстых абзнаямляюцца з асаблівымі заданьнямі прапаганды варожасьці. Спасярод апошніх выбіраецца некалькі тысячаў, якія ў дванаццаці нацыянальных школах знаёмяцца із асабліва адказнымі заданьнямі прапаганды.

**Судовы прыговор над амэрыканскімі камуністымі.** Суд у Лёс Энджэлес (ЗША) прыгаварыў 8 жнівеня 14 амэрыканскіх камуністых на 5 год турмы кажнага й па 10 000 даляраў грашовае кары. Суд прызнаў іх вінаватымі ў змове з мэтаю правядзеньня сілаю дзяржаўнага перавароту.

**Падводны канал між Атлянтычным і Ціхім акіянам.** Гэалёг др. Вільям Гобстраг прадставіў Міжнароднаму Геаграфічнаму Таварыству 12 жнівеня плян, паводля якога павінен быць пабудованы падземны канал для караблёў пад горамі цэнтральнай Амэрыкі, каб гэткім чынам разгрузіць дзейнасьць Панамскага каналу. У сваім праекце вучоны даводзіць, што ў 1960 годзе Панамскі канал ня будзе ўжо ў стане прапускаць усьцяж узрастаючую колькасьць караблёў з Атлянтычнага ў Пацыфічны акіян. Асабліва крытычнае палажэньне пачнецца з 1970 году. Апрача гэтага цяперашні Панамскі канал у выпадку вайны можа быць лёгка атакаваны з паветра, тады, калі канал падземны загарантоўвае бясьпечнасьць.

**Новае прадпрыемства вырабу атамнай зброі ў ЗША.** Амэрыканская камісія атамнай энэргіі паведаміла 12 жнівеня, што на поўнач ад Портсмут (штат Огайё) на прасторы многіх квадратных кілямэтраў будзе пабудаванае вялікае прадпрыемства для прадукаваньня атамнае зброі. Прадпрыемства, у якім будзе выпрадукоўвацца уран-235, будзе мець капацітэт удвая большы, чымсьці падчас другой сусьветнай вайны збудаваны завод у Оўк Рыдж у штаце Тэнэсі. Пабудова гэтага падпрыемства будзе каштаваць 1,2 мільярдаў даляраў.

**Доўгалетні вязень старшынёю вайсковай арганізацыі.** Заходнянямецкае таварыства былых нямецкіх ваенных камбатантаў «Сталёвы Гэлм» выбралі на становішча свайго старшыні былага фэльдмаршала Кэсэрлінга, які быў галоўнакамандуючым нямецкай арміі ў Італіі, а цяпер адседжвае 20 гадоў турмы за ваенныя злачынствы.

# *Праца над старой эміграцыяй*

Вялікай нацыянальнай трагэдыяй зьяўляецца для нас факт, што старая беларуская эміграцыя ў ЗША і Канадзе, якая пакінула бацькаўшчыну перад першай сусьветнай вайной, калі беларускі нацыянальны рух ня быў яшчэ масавым рухам, падпала ў новых краінах свайго асяленьня пад расейскія або польскія ўплывы й таму зьяўляецца сяньня з нацыянальнага гледзішча для нас згубленай. Да некаторай меры можна гэта сказаць і аб нашай эміграцыі ў Аргентыне, што трапіла туды з Заходняй Беларусі пасьля першае сусьветнае вайны. Хаця яна адчувае сваю беларускасьць і сяньня, але, падпаўшы пад уплывы савецкае прапаганды падчас апошняе сусьветнае вайны, у пераважаючай сваей бальшыні сталася ўжо чужой або навет варожай для беларускай нацыянальнай справы.

Бальшыня спасярод нашых нацыянальных працаўнікоў з новае эміграцыі згары махнула рукой на нашую старую эміграцыю, цьвердзячы, што для беларускай нацыянальнай справы яе ўжо ніякім спосабам здабыць ня ўдасца. Такім цьверджаньнем бальшыня сьвядомых беларусаў бясспрэчна стараецца сябе ўсправядлівіць, што яна не адважваецца ўзяцца за цяжкую й няўдзячную работу, якой зьяўляецца нацыянальнае ўсьведамленьне ўжо здэнацыяналізаваных суродзічаў, іншыя-ж з новае эміграцыі згаджаюцца, што пры належнай працы прынамсі частку старой эміграцыі яшчэ можна вярнуць у нашыя нацыянальныя рады, але ў зноўжа ў гэтым кірунку або ня робяць зусім нічога або робяць гэта прыпадкова, бясплянава й несыстэматычна.

Нам у Нямеччыне цяжка судзіць аб мэтазгоднасьці, магчымасьцях і мэтадах нацыянальнае дзейнасьці сярод старой беларускай эміграцыі ЗША, Канады й Аргентыны. Бясспрэчна наш нацыянальны актыў у гэных краінах з новае эміграцыі зьяўляецца ў гэтай справе адзіна кампэтэнтным і мае магчымасьць гэтую нацыянальную працу там праводзіць. На маргінэсе хочам толькі дадаць, што мае ня толькі магчымасьць, але й пачэсны нацыянальны абавязак гэтую працу весьці.

Мы ніколі й у ніякім выпадку не паверым тэй бальшыні нашае новае эміграцыі, якая цьвердзіць, што дарэмныя ў гэтым кірунку ўсякія натугі, бо старой беларускай эміграцыі вярнуць да беларускасьці ўжо ніякім чынам ня ўдасца. Не паверым таму, што калі нашыя суродзічы із старой эміграцыі яшчэ помняць бацькаўшчыну, яшчэ не забыліся беларускае мовы й ей навет паслугоўваюцца сяньня, то пры сталым нацыянальным узьдзейваньні на іх прынамсі часьць іх усьведаміцца й станецца нам вельмі карыснай. Бо калі-б такое ўсьведамленьне было немагчымым, дык немагчымым у роўнай меры было-б нацыянальнае ўсьведамленьне беларускіх народных масаў на бацькаўшчыне ў пэрыяд, калі сатрая эміграцыя пакідала ці ўжо пакінула сваю бацькаўшчыну. Тымчасам на бацькаўшчыне працэс нацыянальнага ўсьведамленьня беларускага народу, за выключэньнем паўночна-ўсходніх частак Беларусі, што раней падпалі пад расейскае панаваньне й узьдзейваньне русыфікацыі й сяньня не ўвашлі ў склад БССР, за гэты кароткі час зьяўляецца ўжо закончаны.

Дзеля прыкладу хочам тут прыпомніць адкрыты ліст старога беларускага эмігранта з ЗША, сп. П. Хаценскага з Дэтройту, які быў друкаваны ў «Бацькаўшчыне» за 15 чэрвеня сёлета. Аўтар гэтага пісьма пад уплывам дзейнасьці новай беларускай эміграцыі, хаця амаль забыўся ўжо роднае мовы, ня толькі сам стаўся палкім беларускім патрыётам, але й заклікае ў гарачых словах усю абруселую старую эміграцыю вярнуцца на правільны нацыянальны шлях. Нам хочацца верыць, што такіх Хаценскіх ёсьць ужо шмат, а колькі-ж іх было-б яшчэ, калі-б сярод старой эміграцыі вялася арганізаваная сыстэматычная праца?

Нам ведама, што ўжо ад даўжэйшага часу беларуская зарганізаваная калёнія

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Праца над старой эміграцыяй

(Заканчэньне)

ў Аргентыне, што складаецца з новых эмігрантаў, вядзе сыстэматычную нацыянальную працу сярод зрусыфікаванай і скамунізаванай старой эміграцыі й можа ўжо пахваліцца значнымі вынікамі. На доказ гэтага няхай паслужаць словы із сьвежага пісьма ведамага й заслужанага беларускага дзеяча ў Аргентыне сп. К. Мерляка да рэдактара «Бацькаўшчыны», якому піша: «Дзякуючы ,Бацькаўшчыне' мы адчынілі дзьверы да старой эміграцыі, а ў прышласьці спадзяёмся мець добрыя вынікі ў грамадзкай і палітычнай працы. Вялікая падзяка за гэта ад беларусаў у Аргентыне Вам і ўсяму пэрсаналу газэты ,Бацькаўшчына'».

Прыводзячы гэтыя словы, мы ня маем на думцы рабіць сабе самарэклямы, якая для нас не патрэбная. Хочам толькі падчыркнуць, што пры помачы пашыраньня беларускага друкаванага слова сярод суродзічаў, якія ў выніку няспрыяльных абставінаў выйшлі з нашых радоў, можна зрабіць вельмі шмат. Хочам таксама гэтым зьвярнуць увагу на прыкры факт, што калі ў Аргентыну высылаецца дасюль тая самая колькасьць газэты, што й у ЗША, дзе новай і старой беларускай эміграцыі прынамсі ў шмат дзесяткаў разоў болей, чымсьці ў Аргентыне, то з ЗША нам паведамляюць, каб высылалі ім шмат меней, бо там яна астаецца й ня ведаюць, што зь ёй рабіць. Аж надта вымоўны доказ таго, што ў ЗША ў кірунку распаўсюджваньня беларускага друкаванага слова сярод старой эміграцыі ня робіцца абсалютна нічога. Дык узноў тады прыпамінаюцца тыя-ж анэгдатычныя «тараканы ў саладусе».

З вышэйшых разважаньняў і прыведзеных прыкладаў відаць ясна, што нацыянальную ўсьведамляючую працу сярод старой нашай эміграцыі весьці можна, што яе весьці трэба й што пры адпаведнай і ўмелай арганізацыі гэтае дзейнасьці вынікі будуць запэўненыя. Пайменна трэба, каб такая дзейнасьць была ня прыпадковай і хаатычнай, але была належна зарганізаванай. Пляновасьць і сыстэматычнасьць такой акцыі будзе найбольшай зарукай ейнага пасьпеху.

Яшчэ раз зазначаем, што ня хочам дакладна падаваць ані мэтадаў гэтай дзейнасьці ані сродкаў, пры помачы якіх найвыгадней яе праводзіць, бо гэтым беспатрэбна ўлазілі-б мы ў кампэтэнцыі людзей, што непасрэдна гэтай акцыяй павінны заняцца. Хочам толькі адцеміць, што, апрача агульных беларускіх арганізацыяў, што павінны частку сваей увагі прысьвяціць гэтай важнай справе, на нашую думку было-б пажадана, каб паўсталі ў такіх краінах, як ЗША, Канада, а мо' й Аргентына, спэцыяльныя арганізацыі, якія займаліся-б выключна нацыянальнай дзейнасьцю сярод старой эміграцыі. Працаўнікамі ў такіх арганізацыях былі-б найбольш для гэтага адпаведныя людзі з новай эміграцыі, як і з эміграцыі старой, якія ўжо вярнуліся ці яшчэ вернуцца ў нашыя нацыянальныя рады й якія хутчэй і лягчэй знайшлі-б супольную мову з сваімі суродзічамі із старой эміграцыі.

І яшчэ адна важная справа. Апрача пашыраньня сярод старой эміграцыі роднага друкаванага слова й прэсы, што выдаецца цяпер, мела-б вялізарнае значэньне спэцыяльная газэта, прысьвечаная выключна старой эміграцыі. Такі часапіс трэба было-б друкаваць прынамсі на палавіну беларускай лацініцай, бо ведама, што многія із старой эміграцыі, асабліва каталікі, ня ведаюць кірылічнага шрыфту. Гэты часапіс, апрача інфармацыяў з сучаснага беларускага жыцьця на эміграцыі, апрача асьвятляньня сытуацыі на падняволенай бацькаўшчыне, павінен быў-бы друкаваць інфармацыйныя артыкулы зь гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пра які старая эміграцыя нічога ня ведае.

Наагул шмат можна было-б знайсьці шляхоў да нашай старой эміграцыі, абы толькі знайшлася ахвота й добрая воля сярод хоць жменькі нашых людзей, якія захацелі-б пасьвяціцца гэтай цяжкай, але як-жа ўдзячнай, прыгожай і незвычайна важнай справе. Мы хочам верыць, што людзі такія знойдуцца. Дык да іхнага нацыянальнага сумленьня мы горача гэтта й апэлюем.

Язэп Каранеўскі

# Паседжаньне Малой Казацкай Рады

У нядзелю 3 жніўня сёлета закончылася паседжаньне Малой Казацкай Рады, якая была скліканая Галоўным Атаманам-Прэзыдэнтам ген. Сяргеем Макеевым у Мюнхэне.

На Малой Казацкай Радзе старшыня Галоўнага Казацкага Прадстаўніцтва інж. Васіль Гласкоў зрабіў зьмястоўны даклад аб сучасным палажэньні на казацкай бацькаўшчыне й пра казацкія справы за мяжою. Заступнік старшыні сп. Іван Бязуглаў даў перагляд узросту казацкага нацыянальнага вызвольнага руху й стану казацкай прэсы.

У праграме нарады былі разгледжаныя розныя пытаньні далейшага змаганьня за вызваленьне казацкага народу з пад няволі Масквы й адраджэньня незалежнай казацкай дзяржавы Казакіі, а так-жа пытаньні каардынацыі ўсіх сілаў паняволеных бальшавізмам народаў у супольным змаганьні з агульным ворагам.

З прычыны выезду Вярхоўнага Кантралёра ў ЗША быў выбраны заступнікам кантралёра дацэнт інж. Уладзімер Мікалаеў, кандыдатам Н. Баравяк-Бараўлёў — абодвы кубанцы.

Пасьля абгаварэньня бягучых справаў паседжаньне Малой Казацкай Рады было закончанае. Пасьля нарадаў была адпраўленая жалобная Божая Служба за ўсіх казакоў, што палажылі сваё жыцьцё за волю й долю казацкай бацькаўшчыны, а таксама Богаслужба за здароўе Галоўнага Атамана, Галоўнага Казацкага Прадстаўніцтва й усіх на бацькаўшчыне й на чужыне прабываючых казакоў.

(Казакпрэс)

# Праграма абедзьвюх партыяў

## ВЫЦЯГІ З ПРАМОВАЎ АЙЗЭНГАЎЭРА Й СТЫВЭНСОНА Й ЗЬ ПЕРАДВЫБАРНЫХ ПЛЯТФОРМАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ І ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ПАРТЫЯЎ

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй перадрукоўваем за газэтай «Нью Ёрк Таймс» галоўныя пункты перадвыбарных праграмаў замежнай палітыкі абедзьвюх партыяў ЗША, пададзеных у прамовах абодвых кандыдатаў на прэзыдэнта й у палітычных перадвыбарных плятформах, устаноўленых рэспубліканскай і дэмакратычнай партыямі на іхных канвэнцыях у Чыкага.

### АСНОВЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ

**Рэспубліканская партыя:** «Рэспубліканская партыя перакананая, што яна выражае найбольш паважныя імкненьні нашага народу да захаваньня міру, платнічай здольнасьці й ажыцьцяўленьня магчыма найвышэйшага дабрабыту».

**Двайт Айзэнгаўэр:** «Каб быць моцнымі духова, мы перадусім павінны помніць, што форма свабоднага ўраду павінна быць палітычным выражэньнем глыбокай рэлігійнай веры. Няма ў нас аніводнага спорнага пытаньня, аніводнай праблемы, якая не магла-б быць разьвязанай пры дапамозе прынцыпаў, што ляглі ў васнову амэрыканскай дэклярацыі незалежнасьці й амэрыканскай канстытуцыі».

*

**Дэмакратычная партыя:** «Пад кіраўніцтвам дэмакратычнай партыі дала Амэрыка належны адбой кажнаму пасяганьню на яе гісторыі, не адхіляючыся пры гэтым ад асноўных лініяў, якія гавораць, што пасланьніцтва чалавека ляжыць у тым, каб асягаць свае мэты ў духу братэрства й пачуцьця людзкой годнасьці».

**«Стывэнсон:** «Мы жадаем, каб супраць высокіх ідэяў і людзкіх імкненьняў ня былі высоўваныя ніякія перашкоды. Мы ня хочам. каб дюдзкія пагляды й імкненьні былі скаваныя й не жадаем ніякіх цьвёрдых схэмаў думаньня й ніякай схэматычнай роўнасьці».

### МЭТЫ ВОНКАВАЙ ПАЛІТЫКІ

**Рэспубліканская партыя:** «Мы пасьвячаем сябе змаганьню за мір, маючы на мэце яго забясьпечыць. Мы будзем заўсёды браць на сябе такія забавязаньні перад заграніцай, якія мы можам выканаць без нарушэньня нашага гаспадарскага дабрабыту й не паставіць у небясьпеку нашага здаровага фінансавага палажэньня. Мы не допусьцім, каб мы сталіся ізаляванымі й фінансава зруйнаванымі».

**Двайт Айзэнгаўэр:** «Мы павінны сябе ўпэўніць у тым, што кажная нацыя ўсьведамляе нашыя імкненьні да захаваньня міру. Мы адхіляем усякае западозрываньне нас у імкненьні да прэвэнцыйнай вайны. Мы павінны ўвесь сьвет — Захад і Ўсход весьці да адзінства мэтаў і гэтаму адзінству самым даць прыклад».

*

**Дэмакратычная партыя:** «Мы забавязваемся няўпынна імкнуцца да адхіленьня загрозы новай сусьветнай вайны. Мы перакананыя, што мір і бясьпечнасьць будуць загарантаваныя, калі Амэрыка не адхіліцца ад асноўных палітычных ліній, якія разьвіваліся ад заканчэньня другой сусьветнай вайны пад кіраўніцтвам дэмакратычнай партыі».

**Стывэнсон:** «Мы не павінны занядбоўваць падчырківаньня канечнасьці мабілізацыі нашых мілітарных і гаспадарскіх сілаў з мэтаю дапамогі вольнаму сьвету. Далейшымі пунктамі, на якія мы кладзём асаблівы націск, зьяўляюцца: бязупынная праца для інтэрнацыянальных арганізацыяў і захаваньня міру Задзіночанымі Нацыямі; вартасьць і значэньне рэгіянальных арганізацыяў для абароннай моцы, як прыкладам збройныя сілы Атлянтычнага пакту, паўдзённа амэрыканскі абаронны пакт і нашыя дагаворы, якія датычаць Ціхаакіянскага прастору; далей пашырэньне тэхнічнае помачы, якая ажыцьцяўляецца нашай праграмай чатырох пунктаў».

### КАРЭЯ

**Рэспубліканская партыя:** «Мы абвінавачваем урад нашай краіны, які бяз згоды народу, заступленага паўнапраўнымі сябрамі кангрэсу, уступіў у Карэйскую вайну, і мы кладзём яму ў віну, што ён вядзе гэтую вайну без ахвоты перамогі».

**Двайт Айзэнгаўэр:** Асабіста ня выказаў ніякай крытыкі ўраду за карэйскую палітыку. Ён толькі адраджваў усякія спробы, што маглі-б быць накіраваныя «да пашырэньня вайны». Як ён асьветчыў, «мы павінны заняць моцнае становішча й намагацца, каб дасягнуць магчымае да прыняцьця перамір'е».

*

**Дэмакратычная партыя:** «На Карэі было назаўсёды даказана, што Задзіночаныя Нацыі будуць ставіць супраць кажнай агрэсыі. Мы кладзём асаблівы націск на тое, каб былі ўсьцяж прадпрымаваныя ўсякія спробы дзеля мірнага ўрэгуляваньня карэйскага канфлікту, якое адказвала-б прынцыпам карты Задзіночаных Нацыяў».

**Стывэнсон:** Ён заявіў, што бачыць у інтэрвэнцыі на Карэі адзінае мерапрыемства, «якое мы адважыліся прадпрыняць». Ён аднак перасьцерагаў «перад імкненьнем шуканьня новых мэтаў у Карэі, якія маглі-б выклікаць далейшыя камплікацыі ў далёкаўсходняй вайне».

### ЭЎРОПА

**Рэспубліканская партыя:** «У Заходняй Эўропе — ня ўмешваючыся ў ейныя нутраныя справы й унікаючы западазраваньня нас у імпэрыялізьме — мы будзем аказваць наш прыязны ўплыў на заканчэньне палітычнага й гаспадарскага падзелу. Адзін гэты падзел перашкаджае гэтай вельмі важнай тэрыторыі стацца сільнай із собскай сілы. Мы будзем там, — так як мы гэта робім усюды — спрыяць паўстаньню калектыўнай сыстэмы абароны».

**Двайт Айзэнгаўэр:** «Калі мы дазволім, каб Заходняя Эўропа трапіла ў сфэру камуністычнага ўплыву, тады павялічыцца для нас небясьпека ў такім разьмеры, што нашыя выдаткі будуць прагрэсыўна падскакваць у гару. Кошты будуць такія вялікія, што яны нам зломяць хрыбет і мы завісьнем у сьмяротнай небясьпецы».

*

**Дэмакратычная партыя:** «Мы дамагаемся гаспадарскага й палітычнага адзінства свабоднай Эўропы й усьцяж узрастаючай салідарнасьці ўнутры паўночна-атлянтычнай грамадзкасьці. Мы вітаем плян Шумана й эўрапэйскае абароннае задзіночаньне. Мы забавязваемся несьці Эўропе часовую помач да часу поўнага ажыцьцяўленьня гэтых праектаў».

**Стывэнсон:** «Я ня бачу ніякай падставы ў тым, што народы Заходняй Эўропы, — калі ім удасца асягнуць дастатковую ўзроўню эканамічнай сілы й стабілітэту — ня змогуць у канцы выставіць усіх наземных збройных сілаў, якія патрэбныя для іхнай бясьпечнасьці».

### КІТАЙ

**Рэспубліканская партыя:** «Мы робім сябром ураду закід, што яны сваей пасьляваеннай палітыкай у Кітаі пасадзілі на нашым пацыфічным флянгу небясьпечнага ворага замест прыяцеляў і саюзных сяброў. Мы будзем імкнуцца, каб палажыць канец занявольваньню Далёкага Ўсходу, якое Сталін ужо даўно вызнаў, як дарогу дзеля перамогі над Захадам. Мы не пакідаем ніякага сумліву, што мы ня маем намеру ахвяраваць Усход, каб здабыць час для Захаду».

**Двайт Айзэнгаўэр:** «Я ня ведаю, каму трэба прыпісаць віну за страту Кітая, але партыя, што знаходзіцца пры ўладзе, павінна прынамсі частку адказнасьці за гэта прыняць на сябе».

*

**Дэмакратычная партыя:** «Нашая ваенная й гаспадарская дапамога для ўраду нацыянальнага Кітаю й Фармозы была аказваная дзеля ўзмацненьня гэтага асабліва важнага фарпосту вольнага сьвету і мы будзем гэтую дапамогу аказваць і надалей».

**Стывэнсон:** Не зрабіў ніякага важнейшага асьветчаньня ў справе кітайскай палітыкі. Аднак ён заявіў, што ён «зьяўляецца староньнікам пасьляваеннай палітыкі, якая была ведзеная ўрадам у замежных дачыненьнях».

ЯКУБ КОЛАС (29)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

ПАЭМА

### XXIX
### НА ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

(Заканчэньне разьдзелу)

Ды тое ліха было ўпарта,
І строіць жартаў зь ім ня варта.
Празь нейкі час, ужо пад зіму,
Міхал у моцным быў абніму
Хваробы цяжкай і паганай,
Неспадзяванай, негаданай.
І гора ў тым: хвароба гэта
Даўно цягнулася, ня зь лета,
І ў тым была яе і сіла,
Што незаметна налучыла,
І спатайка гадоў праз колькі
Яе жывілі манапалькі,
Пакуль яна не разьнялася
І не зваліла з ног Міхася.
Сьпярша Міхал перамагаўся
І той хваробе не даваўся,
А потым кінуўся і ў лекі,
Больш з саматужнае аптэкі:
Піў зёлкі розныя і травы,
Ды не палепшваў свае справы.
Да дактароў ужо па часе
Вазілі хворага Міхася,
Вазілі ў холад і ў марозы,
А ліха-боль свае занозы
Глыбей у цела запускала,
І ўжо з тых лекаў толку мала.
Ляжыць Міхал маўклівы, смутны,
І вочы выцьвілі і мутны,
У глыб душы глядзяць гаротна,
Глядзяць тужліва і маркотна.
І горка гэта сазнаваньне,
Што ад жыцьця ты ўжо адсечан,
І нават можа быць адмецен
І блізак час яго скананьня.
Жыцьцё-ж ішло, як і звычайна,
Крыху марудна, аднастайна,
Калі трушком, калі ступою
Сваёю бітаю трапою.
А з гэтым жыцьцем нага ў ногу
Як-бы ў вадну ўсе йшлі дарогу,
І толькі ён адсталы, хворы,
Папаў у нейкія зажоры
І лічыць нудныя часіны —
Ён моцна выбіт з каляіны
І тым жыцьцём ён ня жыве —
Другія думкі ў галаве,
Зусім другія пачуваньні,
Другі настрой і разважаньні.
І тое, што даўней, бывала,
Яго так моцна захапляла,
Цяпер здавалася няўзрачным
І непатрэбным і нязначным;
Яго цікавіць лёс уласны,
Лёс пагражаючы, няясны,
Зацята схованы, замкнёны,
Бы кары цёмнае праклёны,
Што кажны момант над табою
Зьвісае страшнаю марою,
І кажны час яна гатова,
Сьвядома або выпадкова,
Узьнесьці грозна булаву
І апусьціць на галаву
І разам скончыць, адным махам,
З жыцьцём і зь цёмным гэтым страхам.
Але што ёсьць там, за заслонай,
За гэтай сьцежкаю замкнёнай?
Няўжо пустэлі мрок разьліты,
Канец астатні, ноч нябыту?
Міхалу вусьцішна і жудка,
І сэрца стукае ў ім пудка.
Ох, страшна гэта ноч-пустэля!
Яна ў пякельны мрок засьцеле
Яго жыцьцё і гэты сьвет;
Сатрэцца, згіне яго сьлед
У тым сусьветным праху сьмерці,
Як-бы й ня жыў на гэтым сьвеце.
Ён чуе страшнае тамленьне,
Яго жахае зьніштажэньне,
Ён хоча жыць... Прэч, цені мроку!
Там сэрцу цяжка, цёмна воку...
І гэта там ён апачыне?!
О, не!... І кроў у жылах стыне,
І сэрца ў страсе замірае,
І пот халодны выступае.
Якая гэта недарэчнасьць?!
Хіба ён жыў?... о, вечнасьць, вечнасьць!
Як зразумець цябе і зьмерыць?
І каго слухаць? каму верыць?
Міхал ахоплен цёмнай хваляй,
Ня хоча думка йсьці ўжо далей,
Ён хоча сьцішыць жудасьць тую,
Ён прагне чуць душу жывою.
— Ну, што ты, маці: ты-б прысела, —
Да жонкі мовіць ён нясьмела,
А вочы просяць спачуваньня,
Жывога слова, спагаданьня.
І ёй таксама несалодка —
Каротка, песьня, ты каротка
І заціхаеш так ня ў часе!
Баліць ёй сэрца аб Міхасю;
Яна адгадвае душою,
У якім ён цяпер настроі.
І цяжка ёй. Яна ўздыхае,
Ідзе, сябе перамагае,
І горла ціснуць ёй залозы,
І волі, волі просяць сьлёзы.
— Памру я, Ганна! — кажа ціха. —
Дайшоў да дна свайго кяліха, —
Міхась глядзіць кудысь далёка,
І нудна ёй ад таго ўзроку,
Надзеі гіне рэштка тая,
І большы смутак пашыбае.
Міхал зьдзівіўся: ён ня тое
Хацеў сказаць, а штось другое,
Ды так сказалась. Ну, дык што-ж?
— Ня думай гэтак ты, нябож!
Ці мала людзі так хварэлі?
Хварэлі годы — не нядзелі,
Такіх здарэньняў вельмі многа,
Але ачуньвалі й нічога.
І ты, дасьць Бог, на ногі станеш,
Пярэйдзе ліха, ачуняеш.
Міхал глядзіць ёй пільна ў вочы,
Штось расчытаць на твары хоча,
Але з усьмешкаю крывою
Трасе адмоўна галавою —
Пацеха, знаць, яму малая;
І погляд дзесь ізноў блукае,
Але ня тут, а там, далёка;
Сьлязою мгліцца яго вока,
Ён штось яшчэ сказаць імкнецца,
І цень на твар яго кладзецца.
З двара ўваходзіць дзядзька ў хату;
Ідзе прамовіць слоўка брату.
Антось гаворыць сьмела, стала,
Каб падбадрыць крыху Міхала,
Надзею добрую падаць
І думкі смутныя прагнаць.
— Як пачуваешся, Міхале?
Мацуйся, браце, з мала-маля!...
А дзень які! эх, дзень харошы!
Пайсьці-б цяпер, брат, па парошы!
— Так, брат, пайду ды ці вярнуся?
Якраз патраплю да Пятруся
Ў Царабяжы пад крыж хваёвы, —
Сказаў Міхал у тон размовы,
Бы то звычайнае здарэньне,
Сказаў з усьмешкай засмучэньня.
— Ну ўжо і пойдзеш! не, брат, дудкі:
Аб тым паходзе няма й чуткі;
Яшчэ паходзіш за сахою
І над уласнаю зямлёю
Ты папацееш і ня мала,
На картах бабка так казала;
Не, жыць, брат, трэба і жыць — многа! —
Антось гаворыць, а ў самога

